Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 74 (125). Вільня, Серада 12 Кастрычніка 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Апошнія падзеі.

Хто добра сачыў у працягу апошніх двух месяцаў польскую віленскую прэсу, той лёгка можа зразумець цяперашнія літоўска-польскія здарэньні. Польская прэса адумыслова прысвячала вельмі шмат месца літоўскім справам, выробляючы ў польскім грамадзянстве, патрэбны для рашучых крокаў, настрой. Кожны раз зьяўляліся ў прэсе весткі і артыкулы больш вастрэйшыя і больш атакуючыя літоўскіх адказных палітыкаў у незалежнай Літве.

Нарэшце, напады польскай прэсы на Літву дайшлі да свайго кульмінацыйнага пункту, за імі ўсьлед пайшлі „retorsje" адносна Літвіноў польскіх грамадзян і іх установаў. За адну ноч адбыліся навальныя арышты Літвіноў, за адну ноч польскія ўлады пазачынялі літоўскія прыватныя школы! Якраз у гэту сумную для каранных жыхараў Літоўска-Беларускага Краю часіну, у яго сталіцы Вільні адбыліся раптам неспадзеўкі, урачыстасьці 7-мых угодкаў „вызваленьня Вільні".

На ўрачыстасьць прыехалі вышэйшыя ўрадоўцы і міністры на чале з тым, які ў 1919 годзе выдаў вядомую адозву да жыхараў нашага краю. Адозва асталася адозваю, а жыцьцё прынясло нам рэалізацыю тых плянаў і замераў, з якімі польскае войска ішло да нас. Жыцьцё навучыла нас, як трэба разумець афіцыяльныя дэкларацыі і нат артыкулы выдаваных законаў.

Не затрымліваемся над гэтым даўжэй, бо ўжо добра аб гэтай справе асьведамлены. Нас цікавіць справа цяперашніх літоўска-польскіх падзеяў. Не маючы бесстаронных і пэўных даных аб становішчы Палякаў у незалежнай Літве, ня можам сказаць што там робіцца. У кожным выпадку весткі падаваныя польскай прэсай нічога асаблівага не гавораць аб наступленьні Літвы на Польшчу, ды і наагул, у цяперашніх абставінах жыцьця, зьяўляецца сумлiўным, што такое наступленьне можа стацца. Пэўне-ж, калі адкінуць магчымую чужую помач, дык мілітарная сіла Польшчы здаецца перавышае мілітарную сілу Літвы. Дык ці-ж у справах літоўска-польскіх Літва можа пачынаць распаліваць агонь?

Ясная рэч, што не. А ўсё-ж такі, ня гледзячы на гэта, польска-літоўскія спрэчкі што раз больш напружаюцца, і робяцца зусім немагчымыя ў мірным часе. У гэтым усім трэба шукаць глыбейшых прычынаў, ці, часам, ня ёсьць тут рэалізацыя ангельскіх плянаў? На гэтае пытаньне немагчыма адразу даць адказу, але ўжо наступленьне яго, дае пэўнае выразнае сьвятло на польска-літоўскія назвычайна завостраныя адносіны. Гэтыя адносіны чым больш будуць вастрэйшымі, тым больш пажаданымі для Польшчы. Зусім зразумела, чаму польская прэса, перадусім урадавая, імкнецца сваімі артыкуламі, адозвамі і клікамі да дэманстрацыйных пратэстаў і адпаведных вечаў, пагоршыць польска-літоўскія спрэчкі. Даходзячы да гэтага вываду, ня можам сказаць, што спрэчкі патрэбны толькі для спрэчак, за гэтымі спрэчкамі відаць крыюцца нейкія новыя пляны ўрадовых дзейнікаў.

Урадавая газэта „Kurjer Wileński" проста і адкрыта піша: „Трэба адчыніць дарогу да новага лепшага заўтра". Арышты, зачыненьне школ, урачыстасьці „вызваленьня Вільні", гэта відаць першыя крокі да „адчыненьня дарогі да лепшага заўтра". Жыцьцё пакажа, якое будзе гэтае заўтра.

А. Замежны.

## Польска-літоўскае змаганьне.

Паміма тых арыштоў, аб якіх падавалася ў папярэднім нумары „Сялянскае Нівы", адбыліся новыя арышты, але ўжо пераважна на правінцыі і таксама ізноў арыштавана некалькі ксяндзоў—Літвіноў.

У Віленска-Троцкім павеце арыштаваны: кс. Амброжы Якованіс і вучыцялі: Ст. Казлоўскі і Я. Казакевіч.

У Сэйнінскім павеце арыштаваны: ксёндз Двараноўскі з парахвіі Сэйны і кс. Шымелюн з парахвіі Ратніца.

Польскі ўрад меў выслаць з Польшчы як „чужаземца" арыштававага літоўскага сацыялістычнага дзеяча П. Каразя. Ужо на'т пад надзорам паліцыі даставілі Каразя на станцыю, але-ж пасьля п. ваявода і віцэ-прэм'ер Бартэль раздумаліся і пашкадавалі Каразя, дык і вярнулі са станцыі на Лукішкі... А пашкадавалі дзеля таго, што ў Літве Каразя могуць арыштаваць, дык няхай лепей сядзіць на Лукішках... І пэўна, там могуць, а тут ужо арыштаваны .. Гэтак—лёгічней, практычней і спрытней...

Тымчасам, пасьля гэтакай „дабітнай",—як гавораць Палякі,—працы, так ці інакай стэрарызаваўшы Літвіноў—віленскія Палякі сабралі мітынг, каб пратэставаць проці тэрору, які, быццам, творыцца ў Літве над Палякамі.

Бачыце, калі арыштоўваюць Паляка на Літве, дык гэта—тэрор, а калі арыштоўваюць Літвіноў у Польшчы, дык гэта—няведама што. Гэтак прынамсі напісаў „Kurjer Wileński", які ходзячы навакола польска-літоўскае спрэчкі, арышты Літвіноў так-такі да нічога і не прызначыў. Station Становішча... Станоўка адзначыўшы, што гэта і не адказ на тэрор і ня помста. Ну дык што? Можа выкрытае арганізацыя шпікоўства ці паўстаньня? Таксама не!...

Дык і выйшла, што арыштавалі Літвіноў у Вільні ня ведама за што.

А вось у другім нумары той-жа „Kurjer" проста такі плача, што прыходзіцца арыштоўваць сваіх-жа грамадзян толькі дзеля таго, што фашыст Вальдэмарас пасвоему пануе над Літвою...

Як-бы не выкручывалася польская прэса, усё-ж такі трэба сцьвярдзіць, што за Вальдэмараса—Чыбірас ці які іншы „рыс" ці „ліс"—адказваць не павінен.

### Далейшыя арышты Літвіноў.

У Сувальскім павеце арыштавана дзевяць Літвіноў у м-ку Пунску і вёсцы Войтакені.

### Інтэрвэнцыя д-ра Альсэйкі.

У сувязі з масавымі арыштамі Літвіноў у Польшчы, д-р Альсэйка, старшыня Літоўскага Часовага Камітэту ў Вільні, робіць стараньні перад польскім урадам аб спыненьні арыштаў. У мэтах гэтага паслаў польскаму ўраду адпаведную дэпэшу, на якую адказу яшчэ не атрымаў.

## Польскія ўрачыстасьці ў Вільні.

### Першыя весткі

Пасьля рэпрэсіяў над Літвінамі, быццам гром з яснага неба, выпала вестка 8 г. кастрычніка аб урачыстым сьвяткаваньні сёмых угодкаў захопу Палякамі Вільні. Вестка гаварыла аб тым, што 9 г. кастрычніка прыежджае ў Вільню марш. Пілсудскі са сваімі міністрамі і ген. Желігоўскім, які камандаваў войскамі захапіўшымі ў 1920 годзе Вільню.

### Прыезд марш. Пілсудскага.

Як пішуць польскія газэты ў Вільні, 9 г. кастрычніка раніцаю цягніком з Варшавы прыехаў у Вільню марш. Пілсудскі і некалькі міністраў. Сустрэлі міністраў віленская ўлада і прадстаўнікі польскіх грамадзкіх арганізацыяў. Ад нацыянальных меншасьцяў прадстаўнікоў ня было. Прыехаў таксама і ген. Жэлігоўскі.

### Пратэсты.

Усе польскія палітычныя партыі (выключаючы сацыялістых) і рожныя грамадзкія арганізацыі ладзілі мітынгі, на якіх мелі пратэставаць проці ўціску Палякаў у Незалежнай Літве, хвалячы апошнія арышты Літвіноў у Польшчы.

Кожная з польскіх арганізацыяў, ладзячы мітынгі, выдала адозвы да народу.

### Прэса.

Усе польскія газэты прысьвяцілі свае нядзельныя нумары, як сьвяткаваньню, так і апошняму польска-літоўскаму канфлікту. Падаём выпіску з перадавога артыкулу „Кур'ера Віленскага", „Сёмыя ўгодкі":

„Сем гадоў мінае ад таго часу, калі літоўска-беларускія дывізіі пад даводзтвам ген. Жэлігоўскага распачалі марш на Вільню. Праслаўленыя абаронаю Варшавы палкі ішлі ў родныя вёскі, у родныя хаты да каханае Вільні, дзе шмат хто з салдатаў пакінуў найбольш дарагія, найбольш каханыя ў жыцьцю асобы".

Ішлі літоўска-беларускія дывізіі,

„каб польскаму жыхарству, польскай культуры і польскай мове зьвярнуць належныя на абшарах Літвы гістарычныя месцы".

Ці можа быць што-колечы дурней, як гэтыя словы „Кур'ера Віл."? Ці ня выходзіць яго заява за арбіты лёгікі ў сьвет глупоты?!

Ці-ж можа быць праўдзівым, каб Літвін ішоў душыць уласную дзяржаўнасьць для карысьці некаму іншаму?!

Ці-ж можа быць праўдзівым, што Беларус, адвечны гаспадар Віленшчыны, ваяваў дзеля таго, каб аддаць сваю старонку пад панаваньне Варшавы?

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Кітайскія падзеі.

Замежныя газэты пішуць, што войска паўночнаэ часткі Кітая, якая знаходзіцца пад дыктатарствам Чанг-Тсо-Ліна, далейшым цягам адступае пад Пэкін, быццам дзеля таго, каб заняць лепшыя пазыцыі для абароны. Апошняя, як здавалася, рашаючая бойка паміж войскамі Чанг-Тсо-Ліна і губэрнатара правінцыі Шансі Іена, не дала ніякіх рэзультатаў. У апошнюю хвіліну на падмогу Чанг-Тсо-Ліну, быццам, прышло 14 тысяч мангольскіх кавалярыстаў, якія ўратавалі яго армію ад канчальнага зьністажэньня. Губэрнатар Шансі накіраваў проці іх пяць дывізіяў.

Дагадкі аб лёсе Пэкіна розпарэчывы. У той час, як карэспандэнты амэрыканскіх газэтаў лічаць няўхільным пераход Пэкіну ў рукі праціўнікаў Чанг-Тсо-Ліна, дык ангельскія трымаюцца думкі, што, калі гэта і здарыцца, дык ня хутка.

Тымчасам быццам губэрнатар Іен тэлеграфна зьвярнуўся да Чанг-Тсо-Ліна з прапановаю аб мірным дагаворы на варунках рэарганізацыі Чанг-Тсо-Лінам пэкінскага ўраду згодна пажаданьням Іена. Чанг-Тсо-Лін адказаў Іену, што прапанову аб згодзе прынімае, але-ж з рэштаю варункаў не згаджаецца.

Цяпер войска губэрнатара Шансі наступаюць на Пэкін з аднаго боку, а з другога ідзе на Пэкін армія генэрала Фэнга. Фэнг ужо перайшоў Жоўтую раку. Хоць камунікацыя паміж Пэкінам і Цянь-Дзінам адбываецца рэгулярна, але-ж жалезна-каляёвы рух у Пао-Цін-Фу амаль што спыніўся.

### Ангельская работніцкая партыя.

На сваім сабраньні ангельская работніцкая партыя прыняла рэзалюцыю лідэра работніцкага руху Макдональда. У тэй рэзалюцыі вонкавая палітыка ангельскага ўраду лічыцца шкоднаю для справы спакою на сьвеце. А дзеля гэтага ангельскія работнікі дамагаюцца ад свайго ўраду распачаць перагаворы з Амэрыкаю адносна разаружэньня. У першую чаргу яны дамагаюцца абвясьціць марскую вольнасьць. Знача, хто хоча, той і павінен без усякага абмежаваньня карыстацца морам. Далей работніцкая партыя дамагаецца ад ангельскага ўраду, каб ён зрабіў дагавор з амэрыканскім урадам аб вечным спакоі і каб значна паменшыў свой ваенны флёт.

### Паўстаньне ў Мэксыцы.

У Мэксыцы (гэтакая ёсьць дзяржава ў Амэрыцы) паўстала завіруха проці пануючага там ураду. Паўстаньне ахапіла ўжо 13 штатаў і наагул пашыраецца.

Згодна апошніх вестак па распараджэньню ўраду растрэляна 2 генэралы і 1 палкоўнік, якія прысталі да паўстанцаў, але папалі ў няволю ўрадавым вайскам.

Паўстаньнем кіруе ген. Гомец, які, як відаць, імкнецца захапіць уладу ад прэзыдэнта Каллеса.

Гледзячы на сучасны стан рэчаў у Мэксыцы можна зрабіць трафныя вывады, што паўстаньне ня мае сацыяльнае рэвалюцыі, гэта—проста асабістая спрэчка паміж палітыканаў, якія, тым ці іншым парадкам, сабраўшы „армію“ вядуць барацьбу за асабістае кіраўніцтва ў дзяржаве.

### Склад найвышэйшага суду ў Маскве.

Газэты падаюць, што ў склад найвышэйшага савецкага суду ў маскве ўходзяць гэтакія асобы: Азеер, Ідрыс, Глюсман, Гайшпуйт, Гайліс, Кронберг, Крамэр, Мэрэн, Некундэ, Розенбэрг, Прайтсок і Фэльдман.

Самыя прозьвішчы гавораць,—дадае „Украінская Грамада“,—хто такія гэтыя судзьдзі, ды хто правіць на'т у Маскве.

Ці-ж ня відаць, галава ў галаву—Маскалі!...

### Розныя весткі.

— 8 г. кастрычніка вечарам, у Вене—сталіцы Аўстрыі, было землетрасеньне, якое перапудзіла жыхараў.

— У працягу нейкага часу не перастае землятрасеньне ў Крыме. Землетрасеньне нарабіла там многа шкоды. Людзі начуюць у палатках, бо пры кожным страсеньні зямлі рушацца дамы, забіваючы сваіх жыхараў.

### Усякія здарэньні.

— У Дабруджы (Румынія) здарылася паводка. Ад навальніцы, у рэках гэтак прыбавілася вада, што яна разьлілася за берагі і заліла вялікія абшары. У м. Добрыч вада зьнішчыла 143 дамы, 25 чалавек утапілася.

— У Амэрыцы, у Кэмбэрлі блізка Эпэльтона на паперні праваліліся падлога другога паверху, якая пахавала пад сваімі абломкамі 125 работнікаў.

# НАВІНЫ.

— **Беларускі Народны Тэатр у Лаварышках.** У нядзелю 9 кастрычніка Бел. Нар. Тэатр зрабіў выступленьне ў Лаварышках, Віленска-Троцкага пав. Была адыграна „Паўлінка“ і „Заручыны Паўлінкі“, а таксама прапеяны некалькі беларускіх песьняў.

— **Арышт А. Война.** Гр. А. Войціка бышага рэдактара газэты „Сялянская Праўда“ арыштавалі і пасадзілі ў вастрог у Вільні, каб адсядзеў 4 мес. кару за „праступкі“ ў справе даўнейшага рэдактарства.

— **Марны трыумф.** Кс. Талочка, які да гэтага часу працаваў у польскай газэце „Przegląd Wileński“, арцыбіскуп забараніў далей весьці гэтую працу.

Кс. Талочка, які здаецца „грашыў“ сваею прыхільнасьцю да Беларусаў, працуючы ў „Przeglądzie Wileńskim“, высьвятляў справы каталіцкага касьцёлу, а дзеля гэтага з прычыны забароны на гэта, рэдакцыя „Prz. Wil.“ выражае вялікі жаль, тлумачачы гэта тым, што ня здоляе ў далейшым без падмогі кс. Талочкі выказываць праўдзівыя пагляды на каталіцкія касьцельныя справы. Ясна, што ад гэтага пацярпіць справа касьцёлу, а калі так, дык запраўды гэты трыумф-марны. У гэтым можна згадзіцца з „Przeglądem Wileńskim“.

**Усё „добра“.** Віленскі арцыбіскуп меў гутарку з карэспандэнтам польскай газэты „Rzeczpospolita“. У гэтай гутарцы галава віленскай дыэцэзіі зазначыў, што, як ён асабіста даznaўся, з асабістых „баданьняў“, дык Беларусы і Літвіны ня хочуць, каб іх родная мова ўводзілася ў касьцёлы. Быццам усе здаволены польскаю моваю.

Але-ж... „Przegląd Wileński“ піша, што не пасьпеў арцыбіскуп вярнуцца з падарожжы, як надышла вестка, што ў Гадуцішках паўстаў скандал у касьцёле, як вынік распараджэньня арцыбіскупа аб скасаваньні дадатковага набажэнства ў літоўскай мове ў гадуцішкім касьцеле. І гэта называецца „добра“.

— **Яшчэ аб кс. Бародзічу.** Кс. Бародзіч, які, як ужо ведама, нарабіў скандалаў у Леванполі пасьля ўсяго быў адкліканы адтуль, а цяпер знаходзіцца ў Вільні. Уся яго праступная праца, асталася не пакаранай. Кс. Бародзіч толькі што выдаў 200 экзэмпляраў новага мэмарыялу, у якім ізноў робіцца нявінна пацярпеўшым за сьвятую справу — пашырэньне польскасьці. Як пішуць некаторыя газэты, дык кс. Бародзіч тлумачыцца, што ён пацярпеў ад таго, што нагаварылі на яго праваслаўныя папы і людзі ня польскае нацыі.

Да гэтае весткі прытачаем выпіску з „Przeglądu Wileńskiego“:

„Увесь гэты няздарны памфлет (мэмарыял) маючы на мэце несмачную аўтарэкляму нефартуннага апостала, не заслугоўваў-бы на ўвагу калі-б ня гэтакія здарэньні, што, паміма ўсяго, афіцыяльныя дзейнікі блізка і паважна прыймаюць справу кс. Бародзіча і трактуюць яго, як запраўды нявінна пакрыўджанага. Сьведчыць аб гэтым (пэўна ня выдумаў гэта кс. Барадзіч), што пан Прэзыдэнт Рэчыпаспалітай, маршалак Пілсудскі, міністры ўнутраньніх і замежных справаў, кс. кардынал Глёнд і ін. прыслалі кс. Бародзічу прывітальныя спачуваючыя тэлеграмы“.

Дык пасьля гэтага запраўды неяк дзіўна становіцца!.. Навошта было адклікаць кс. Бародзіча з Леванполя?.. Няхай-бы ён рабіў-бы і далей там скандалы!..

— **Дагадаліся...** Да гэтага часу ўва ўсіх пашпартах, ня гледзячы на нацыянальную прыналежнасьць асобы, пісалася — Паляк. Рэч ясная, што проці гэтакай штукі пратэставалі: Беларусы, Украінцы, Літвіны і г. д. Пасьля такіх пратэстаў, як відаць з палемікі паміж польскімі газэтамі: „Przegląd Wileński“ і „Myśl Niepodległa“, польскія ўрадавыя колы выдумалі новую штучку. Паводле гэтае новае штукі — у пашпартах ужо ня пішацца нічога адносна нацыянальнай прыналежнасьці... Гэтая рубрыка астаецца незапоўнянай.

Жабраку абнова—брак!
Людзі скажуць: ён багаты,
Паглядзі, які халат!
На парог ня пусьцяць хаты,
Крыкнуць: „Вон, пашлі назад!“
Заскуюць яшчэ сабакам
Ды дадуць і кулакоў...
Рвань ёсьць беднасьці адзнака,
Беднасьць—доля жабракоў.
А зірнуць, вось, на такога,—
Хіба той ня дасьць, хто ліх...
Слухай ты мяне, старога,
Лепей ведаю я іх.
— А скажы, дзед: ці ня можна
Жыць праўдзіва, а ня так?...
— Ну, а як скажы, а як?
Галава твая парожна!
Дзе-ж тут зман той? вось дзівак!
Раз узяўся ты за гуж,
Не кажы, што я ня дуж;
Трэба ведаць тут парадкі:
Зьверам будзь сярод зьвяроў,
Між авечачак—ягняткам...
Толькі так, каб я здароў!
Ты паслухай, што скажу я:

Думала варона,
Чорная хвальбона—
Хай не марыкуе;
Думала-гадала,
Што ёй сьвету мала
І чагось бракуе.
Пташкі ўсе, як пташкі:
Лёгкі лёс ці цяжкі,
А жывуць, як трэба.
Хто жыве ў балоце,
Гнёзды ўе ў чароце,
Мае свой кус хлеба:
Чапля ловіць рыбу,
І ў сваю сядзібу
Носіць бусел жабы.
Плюхаюцца качкі,
Гусі, іх сваячкі,—
Ім вада была-бы.
А хто жыў на полі,—
Меў там свае ролі,
Свой парадак пэўны.
Толькі тэй вароне
Паў на глузд, Сымоне,
Замер неспадзеўны:
Хоча быць арліцай,
Блісnúmуць бліскавіцай
У надземнай багне,
Каб ва ўсім стварэньні
Выклікаць зьдзіўленьне—
Славы сабе прагне.
І варона з шула
Крыльлямі ўзмахнула—
Вышай, вышай, вышай!
Яна ўжо высока,
Чуць угледзіць вока,
І здаецца мышай.
Толькі-ж хто ні гляне
На яе лятаньне,
Кажа: то-ж—варона!
Бачыць—прагарэла,
Бо ня вышла дзела,
Не па ёй карона!
Але не шманае
Пташына дурная,
Новы шлях цярэбіць:
Спаганю сваё я,
Спробую другое—
Паплыву, як лебедзь!“
Дзбае варона
На адхон затону,
Дзбае, гяргеча;
Стала над вадою
І—бух з галавою!
Шугнула, бы з печы,
Вымакла, бядачка,
Бо яна ня качка,
Чуць не затанула.
Вылезла на бераг,
І цана ёй шэлег—
Не ўзьляціць на шула.
Кінула варона
Дасяганьне трону,
Зноў ідзе на летнік.
І да гэтых часаў
Ей зачынен засаў:
Ёй прызначан сьметнік.
Дык ня будзь, Сымоне,
Падобен вароне
І ня круці носам,
Слухай ты старога,
Не кажы пустога...
Ды... змагайся з лёсам!—

Хлопчык слухаў, ды ня верыў:
Лжэ ён, гэты стары пень,
І дзядоўскія намеры
Ясны хлопчыку, як дзень.
І Сымон даўно заўважыў,
Як дзед пазухі бярог,
Як размовы меў аб кражах,
Як казаў аб зладзяёх.
—Ці дзед хвор?—пытаў хлапчына,—
Што хапаешся за бок?
— Дый ня дуж такі, браток.—
Крэхча хітры старычына,
Стогне, войкае нарокам,
Як-бы й праўда што баліць,
А ў старога там, за бокам,
Срэбра цэлы спрат ляжыць.
Вось ён байкі выдумляе,
Як зладзеяў моцна б'юць,
Што за доля іх спаткае,
Калі ў пекла пападуць.
Як іх толькі ня ўшчуваюць:
Вараць іх чарты ў катлох,
Скуру кіпцямі зьдзіраюць
З іх зладзейскіх рук і ног;
Б'юць у сьпіну бусакамі
І жывое мяса рвуць
І па пальцах малаткамі
Жараць, косьці іх таўкуць.
А найгорай тым трапляе,
Хто няшчасных жабракоў
Крыўдзіць або абкрадае—
„Не сказаць—каб я здароў!“

IV

Быў якраз пачатак мая.
Ну й была тады вясна!
Ось такая, што бывае
Можа ў сотні лет адна:
Было ў меру ўсё і ў пору:
Дожджык пройдзе, зноў цяпло,
Травы, краскі гнала ўгору
На прасторы, на сьвятло.
Выйдзеш з хаты надасьвеце,
Так і піў-бы дух зямлі,
І расьлі-б, здаецца, дзеці,
Каб іх кінуць на ральлі.
А дзянёчак як настане,
Тая ранічка вясны!
Кропля роскі на каштане
Блеск запальвае дзіўны;
У ёй зорчын сьмех блукае,
І вясёлкі ў ёй дрыжаць,
А лес радасьцю гукае,
Шчасьцем вее сенажаць.
А вакол так ціха-гожа,
А паслухаеш—чутно,
Як расьце трава і збожжа—
Нівак сьвежае руно.
І з зямлі празрыстым парам
К небу ўзносіцца туман,
Як малітва сонцу, хмарам,
І дрыжыць, гарыць пажарам
Скат узгоркаў і курган.

(Далей будзе.)

